# Веcткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

Viestki j Paviedamleńni

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 10 (608)
Кастрычнік 2016 г.


# Роўнасьць ці справядлівасьць - дылема дэмакратыі

Ад часоў Французскай рэвалюцыі словы "Свабода, Роўнасьць, Братэрства" ўспрымаюцца як частка адной тэндэнцыі – да справядлівейшага і гуманьнейшага чалавечага грамадства. Заяву пра тое, што ўсе людзі створаныя роўнымі, запісалі ў Дэклярацыі незалежнасьці айцы-заснавальнікі Злучаных Штатаў. Уся сыстэма адукацыі сучаснай Амэрыкі будуецца на паняцьцях роўнасьці ды справядлівасьці. Словы гэтыя, узгаданыя праз коску, можна сустрэць у шматлікіх заканадаўчых актах, газэтных артыкулах, пачуць у радыёперадачах, па тэлебачаньні і ў фільмах. Цяпер, калі паняцьці "сацыяльная справядлівасьць", "няроўнасьць прыбыткаў" ды да іх падобныя, набіраюць усё больш прыхільнікаў, варта прыглядзецца да канцэптаў роўнасьці й справядлівасьці крыху ўважлівей.

Брак роўнасьці сучасныя псэўдалібэралы ўважаюць за фундамэнтальную і вызначальную хібу Амэрыкі. Маўляў, калі будзе ўведзеная роўнасьць, тады аўтаматычна прыйдуць і справядлівасьць, і ўсё астатняе, улучна са свабодаю і братэрствам. Аднак наколькі абгрунтаваныя падставы для такіх вясёлкавых спадзяваньняў? Калі паглядзець на чалавечую прыроду, можна ўпэўніцца, што штучная, мэханічная роўнасьць ня мае зь ёю нічога агульнага. Нараджаючыся больш-менш роўнымі, людзі вырастаюць маючымі абсалютна розны выгляд, рост, здольнасьці, памкненьні, мары, пляны. Спробы нівэляцыі паасобных рысаў і аспэктаў чалавечага існаваньня, што рабіліся ў старажытным Кітаі або ня так даўно ў камуністычных краінах, не прывялі да паляпшэньня жыцьця, да шчасьця і да росквіту. Не выпадкова, што заснавальнікі Злучаных Штатаў, канстатуючы роўнасьць людзей пры нараджэньні, канста-

*заканчэньне на бачыне 4*

## Запрашаем на прэзэнтацыю




літаратурнага альманаха беларускіх пісьменьнікаў замежжа **"БЕЛАРУС"**, якая адбудзецца ў суботу **15 кастрычніка 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

На імпрэзе будуць прысутнічаць выдаўцы і шмат хто з аўтараў выданьня, прысутныя змогуць пазнаёміцца зь імі, задаць пытаньні, атрымаць аўтографы і набыць новы нумар альманаха па зьніжанаму адмыслова для прэзэнтацыі кошту.

Сёлета ў рэкордным па памеры дзесятым ад часу заснаваньня нумары сабраныя творы 25 беларускіх літаратараў замежжа, што жывуць у 10 краінах сьвету.

Даведацца больш інфармацыі пра новы нумар і замовіць яго можна, наведаўшы ў сусьветным сеціве старонку **e-krama.com.** Аплату на сайце можна зрабіць крэдытнаю ці банкаўскаю карткаю альба праз рахунак ***Paypal***.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735 USA***

Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

На сайце можна зрабіць ахвяраваньне на выданьне наступнага нумару, выхад якога заплянаваны на восень наступнага году. Усе дабрадзеі заўсёды першымі атрымліваюць асобнік альманаха адразу пасьля выхаду з друку, а іхныя імёны будуць узгаданыя ва ўступным артыкуле.

Тыя з нашых суродзічаў, хто маюць літаратурныя здольнасьці, на сайце могуць пазнаёміцца з умовамі друку альманаху і падтрымаць ягонае выданьне сваім удзелам у наступным годзе.

З пытаньнямі зьвяртайцеся, калі ласка, на электронны адрас: ***zamova@e-krama.com***



# Верасьнёўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу 13-га верасьня ў Цэнтральным парку адбыўся чарговы верасьнёўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” . На сходзе прысутнічала каля 30 чалавек, нягледзячы на сьпёку, а таксама тое, што некаторыя ўдзельнікі працавалі напярэдадні да 1-й, а хто і да 4-й гадзіны ночы.

Напачатку сходу старшыня Згуртаваньня сп. Віталь Зайка распавёў гасьцям аддзелу пра арганізацыю, пра мэты й прынцыпы “Пагоні”. Затым ён паінфармаваў прысутных пра свой удзел у 32-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, пра задачы й прабег гэтага форуму, што раз на два гады зводзіць разам прадстаўнікоў беларускай грамады ЗША і Канады. Традыцыя была закладзеная ў 1952 годзе, калі ў Ніягары на мяжы ЗША і Канады сустрэліся беларусы – прадстаўнікі двух краінаў. Сёлета Сустрэча прайшла ў сталіцы Канады Атаве, і была надзвычай добра падрыхтавана прадстаўнікамі атаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК). У Сустрэчы ўзялі ўдзел каля 100 чалавек, ня толькі з ЗША і Канады, але і зь Беларусі. Былі абмеркаваныя пытаньні падвышэньня нацыянальнай сьведамасьці выхадцаў зь Беларусі, прыцягненьня іх да культурніцкай і грамадзкай працы на карысьць беларускай грамады ў Паўночнай Амэрыцы. Было прачытана шмат цікавых дакладаў і паведамленьняў, адбыліся плённыя дыскусіі, была выпрацавана агульная рэзалюцыя. Багатай была культурная праграма, выканаўцы на канцэрце былі сапраўды сусьветнага ўзроўню, і шмат зь іх ёсьць прафэсійнымі музыкамі, што працуюць у славутых аркестрах, выкладаюць і гастралююць. Па агульным меркаваньні ўдзельнікаў, 32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі прайшла зь вялікім посьпехам.

Затым перад прысутнымі выступіла сакратар Згуртаваньня “Пагоня”, сп-ня Валянціна Якімовіч. Яна распавяла пра свой досьвед і пра свой шлях да беларускай культуры. Прамоўца адзначыла, што на яе ўсьведамленьне як беларускі, а таксама на шмат каго яшчэ, паўплывала асоба вялікага паэта Беларусі Анатоля Сыса. Яна таксама адзначыла уплыў арганізацыі “Майстроўня” зь першай паловы 1980-х гадоў, а таксама суполак “Талака” і “Дзяньніца”, што ўтварыліся на яе месцы, а таксама аб’яднаньне маладых пісьменьнікаў “Тутэйшыя”. Валянціна Якімовіч таксама згадала пра сьвяты і абрады, якія ладзіла “Талака”, пра Гуканьне вясны, якое з падбухторваньня ўладаў было разагнанае аўганскімі вэтэранамі, шмат зь якіх пасьля шкадавалі пра тое, бо былі ўведзеныя ў зман камуністычнымі ўладамі. Затым колькасьць зацікаўленых беларускай культурай працягвала павялічвацца. Прамоўца заклікала прысутных быць актыўнейшымі, трымацца адзін аднаго, дапамагаць захаваньню і разьвіцьцю беларускай прысутнасьці ў Нью-Ёрку і ваколіцах.

Наступнай узяла слова сп-ня Ганна Шарко, якая займаецца культурніцкімі й таварыскімі імпрэзамі ў Нью-Ёрку, і правяла ўжо шмат цікавых і запамінальных сустрэчаў беларусаў. Яна коратка спынілася на сваёй дзейнасьці, паінфармавала пра старонку на Фэйсбуку “Беларусы ЗША. Разам лягчэй”, дзе кожны можа пакінуць сваю інфармацыю і атрымліваць паведамленьні пра жыцьцё моладзі ў ЗША, пра імпрэзы, якія рыхтуюцца ў Нью-Ёрку і ваколіцах. У прыватнасьці спня Ганна Шарко заклікала ўзяць удзел у вечарыне “Восень у Нью-Ёрку” 17-га верасьня і, наагул, далучаца да беларускага маладзёвага жыцьця.

Напрыканцы сходу прагучэлі аб’явы й паведамленьні, прысутныя мелі мажлівасьць даведацца больш пра беларускую грамаду Нью-Ёрку.

**Віталь ЗАЙКА**



# 32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

У Атаве, Канада, з 3-га па 5-га верасьня праходзіла 32-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Яе тэма была наступная: "Дыяспара: нацыянальная сьведамасьць і разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці й культуры". Сустрэча, як заўсёды, была арганізаваная Згуртаваньнем Беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. У Сустрэчы бралі ўдзел таксама прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Месцам правядзеньня Сустрэчы стаў гатэль "Лорд Эльгін", адзін з найлепшых у Канадзе. Побач з заляй, дзе праходзілі паседжаньні Сустрэчы, арганізатарамі ладзілася выстава карцінаў, мастацкіх вырабаў, сувэніраў, а таксама продаж кнігаў і паштовак.

пост-савецкая, скіраваная на Расею (каля траціны), і эўрапейская (чвэрць апытаных). Асяродзьдзе ўжываньня беларускай мовы звужаецца. Беларусы не перажываюць супольна за пэўныя падзеі з нацыянальнай гісторыі. Прамоўца адзначыла ролю паваеннай эміграцыі ў фармаваньні беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Таксама яна спынілася на дзейнасьці Згуртаваньня "Бацькаўшчына" і на праектах, якія былі распрацаваныя і ажыцьцёўленыя з дапамогаю "Бацькаўшчыны", у тым ліку ўдзел у выпрацоўцы закону "Аб беларусах замежжа". Які б ня быў недасканалы гэты закон, але гэта першы крок, і крок наперад. Таксама варта адзначыць кампанію "Будзьма беларусамі", якая адлюстроўвае рост цікавасьці да беларускай культуры, але таксама і нізкі ўзровень ведаў пра яе. Посьпехам карысталіся мультфільм "Гісторыя Беларусі за 5 хвілін" і вядомыя песьні разных славутых сьпевакоў прасьпяваныя імі па-беларуску, праект "Краіна цмокаў", Фэст цмокаў у Лепелі, Фэст дранікаў, розныя іншыя рэгіянальныя ініцыятывы. Сп-ня Макоўская нагадала пра надыходзячы 7-ы Зьезд Беларусаў Сьвету ў Менску ў 2017 годзе і запрасіла ўсіх прысутных паспрыяць ягонай працы, даслаць на яго дэлегатаў.



Падчас адкрыцьця Сустрэчы прагучэла музычная кампазыцыя ў выкананьні дуэту "Кантабіле". Сустрэчу афіцыйна адкрыў старшыня Атаўскага аргкамітэту ЗБК др. Пётра Мурзёнак. Затым вядзеньне Сустрэчы перанялі Аляксандра Логвін (Атава) і др. Сяргей Раманюк (Кліўлэнд).



Алена Макоўская

Першай з дакладам "Нацыянальная ідэнтычнасьць беларусаў: узаемаўплывы працэсаў у дыяспары і Беларусі" выступіла сп-ня Алена Макоўская, кіраўнік Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына". Яна прааналізавала сытуацыю з нацыянальнай сьведамасьцю і адзначыла, што калі сьведамасьць нявыразьвітая, дык на яе месца становіцца спажывальніцтва, што фактычна і назіраецца ў сёнешняй Беларусі, дзе большыня грамадзтва задаволеная панаваньнем адной асобы і не бачыць патрэбы зьменаў. Далей прамоўца прывяла вынікі сацыялягічных апытаньняў "Бацькаўшчыны" і сацыялягічнай лябараторыі "Новак" з 2009 і 2011 гадоў і навейшыя апытаньні. Абсалютовая большасьць у 2011 вызначалі сябе як жыхары Беларусі або грамадзяне РБ. Канкуруючымі арыентацыямі былі



Зіна Гімпелевіч

З дакладам "Роля нацыянальнай культуры і асьветы ў разьвіцьці грамадзкай супольнасьці беларусаў у замежжы" выступіла прафэсарка Ўнівэрсытэту Ўотэрлоў, др. Зіна Гімпелевіч, аўтарка сямі кнігаў па розных пытаньнях беларускай культуры. Яна пачала з аповеду пра ўласны досьвед і пра свой шлях да беларускай культуры, пра падтрымку яе зацікаўленасьці беларусамі ЗША і Канады, пра дапамогу і шчырыя сяброўскія парады такіх асобаў, як Вітаўт Кіпель, Янка й Івонка Сурвіллы, др. Янка Садоўскі, Раіса Жук-Грышкевіч. Прамоўца дала агляд славяна-

ведных і беларусаведных досьледаў у Канадзе і дзейнасьці Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) у Канадзе, адзначыла актыўнасьць беларускай грамады і беларускіх арганізацыяў.

Сп. Вячаслаў Бортнік з Вашынгтонскага гуртка БАЗА выступіў з паведамленьнем пра патрэбу стварэньня эфектоўнай мульты-мэдыя прасторы для культурнага дыялёгу Беларусь-ЗША. Ён адзначыў, што цяпер ёсьць шмат сеціўных сайтаў па беларускай тэматыцы, але няма парталу, няма аб'еднаньня высілкаў для кансалідацыі рэсурсаў. Прыкладам такой дзейнасьці можа быць праект "Мова нанова", які вельмі ўразіў і спадабаўся шырокім колам беларускай грамадзкасьці, стаў сапраўднай "мультымэдыйнай бомбай".

Сп-ня Ірына Варабей, дызайнэрка з ўласным брэндам Spirit of Belarus (Таронта) распавяла пра інтэрактыўныя праекты ў галіне вышыўкі, пра спалучанасьць вышыўкі з арнамэнтам і з нацыянальным сымбалізмам. Адзначыла падтрымку гэтай справы ў Канадзе, дзе вельмі любяць вышываць на этнічныя тэмы. Сп-ня Варабей распрацоўвае і распаўсюджвае беларускія ўзоры вышыўкі. Заўсёды існавала патрэба ў кампактным візуальным іміджы Беларусі, і вось цяпер кашуля-вышыванка робіцца беларускім "брэндам". Беларусь, дарэчы, зьяўляецца ці не адзінай славянскай нацыяй, што захавала сваё "магічнае пісьмо" – нацыянальны сымбалізм арнамэнту. Прамоўца адзначыла папулярнасьць сваёй старонкі на Фэйсбуку і распавяла пра распаўсюд сваіх узораў праз крамы, больш за 500 вырабаў у 60 краін сьвету.



Ірына Варабей

Затым др. Пётра Мурзёнак выступіў з дакладам "Аб характары ўзаемаадносінаў беларусаў замежжа". Ён распавёў пра беларускую грамаду ў Канадзе, пра дзейнасьць беларускіх арганізацыяў, пра культурніцкае і асьветніцкае жыцьцё, пра свой сеціўны часапіс "Культура і нацыя". Прамоўца спыніўся на гісторыі беларусаў Канады, і на ацэнках колькасьці прадстаўнікоў беларускай нацыянальнасьці, пра асаблівасьці эміграцыі зь Беларусі, вызначыўшы яе як пераважна эканамічную. Былі адзначаныя спробы стварыць беларускія суполкі ў Ванкувэры й Эдмантане, пра цяжкасьці, зь якімі гэтая справа сутыкнулася. Др. Мурзёнак адзначыў моцныя інтэлектуальныя сілы й досыць актыўную дзейнасьць беларусаў у Атаве, прыкладам чаго можа быць падрыхтоўка гэтай Сустрэчы. Прамоўца адзначыў, што вельмі важным ёсьць пытаньне кансалідацыі, стварэньня таварыскай прыцягальнай атмасфэры для ўсіх, хто паходзіць зь Беларусі, і недапушчальнасьць ганіць людзей, якія размаўляюць па-расейску. Неабходная асьвета і адукацыя, выпрацоўка стратэгіі для прыцягненьня да беларускасьці.



Пётра Мурзёнак

Сп. Вячка Станкевіч, заступнік старшыні Рады БНР (Флёрыда) выступіў з паведамленьнем пра Беларускі музэй у Паўночнай Амэрыцы. Ён даў прыклады з дзейнасьці па стварэньні нацыянальных музэяў сярод эміграцыйна блізкіх нам народаў, прадстаўнікоў Усходняй Эўропы. Усе спробы стварэньня музэяў пераважна зьвязаныя з паваеннай эміграцыяй, і музэі летувісаў, палякаў, чэхаў, украінцаў, латышоў, якія былі створаныя дыяспарамі ў 1960-1970-я гады, цяпер маюць падтрымку адпаведных дзяржаваў-мэтраполіяў, часам знаходзяцца ў вялізных раскошавых будынках, з прафэсійна распрацаванымі й дагледжанымі экспазыцыямі. Беларусам, як заўсёды, можна спадзявацца толькі на ўласныя сілы, але ў справе распрацоўкі канцэпцыі музэю ёсьць прыклад стварэньня Музэю ў Гайнаўцы, і ёсьць складнікі для музэю ў выглядзе экспанатаў. Прамоўца таксама адзначыў высілкі ў гэтай справе з боку д-ра Янкі Садоўскага ў Канадзе, і беларускага асяродку "Полацак" у Агаё. Падтрымкі можна таксама чакаць ад Цэнтру Беларускіх Досьледаў пры Паўднёва-Заходнім Унівэрсытэце ў Канзасе, які цяпер узначальвае прафэсарка Паўлінка Сурвілла.



Вячка Станкевіч

Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп-ня Ганна Сурмач, рэдактарка газэты "Беларус", стваральніца й кіраўніца ў 1993-1999 гг. Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", выступіла з дакладам "Падрыхтоўка выданьняў пра гісторыю дзейнасьці асобных беларускіх асяродкаў і арганізацыяў у замежжы". Прамоўца напачатку спынілася на гісторыі й традыцыях Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Яны бяруць свой пачатак ад 1952 году, ад першай Сустрэчы ў Ніягары, на мяжы ЗША і Канады. Усё гэта дайшло да нас дзякуючы ня толькі вусным сьведчаньням, але і архівам, і той інфармацыі, што падавалася ў газэтах ды іншых друкаваных выданьнях. Сёньня шмат хто, асабліва моладзь, аспрэчваюць патрэбу выданьня газэтаў – маўляў, цяпер усё можна знайсьці ў інтэрнэце. Гэта значыць, у віртуальнай прасторы, у паветры проста. Але што застанецца пасьля інтэрнэту, што будзе, як яго ня стане, або калі цяжка будзе знайсьці патрэбны матэрыял? Скажам, газэце "Беларус"ужо 66 год, і можна хутка і з гарантыяй знайсьці кожны яе нумар, атрымаць доступ да кожнага артыкулу ды іншага матэрыялу, надрукаванага ў газэце. Што будзе з усімі сеціўнымі сайтамі, якіх цяпер шмат маем – невядома, гарантыяў няма. Далей прамоўца спынілася на працы па выданьні газэты "Беларус", заклікала прысутных браць актыўнейшы ўдзел у падрыхтоўцы газэты. Сп-ня Сурмач таксама падкрэсьліла неабходнасьць захаваньня памяці, зьбіраньня і перахоўваньня мэмуараў, архіваў, фатаздымкаў, гука- і відэа-запісаў – усіх сьведчаньняў беларускай гісторыі і, у прыватнасьці, сьведчаньняў прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы. Прамоўца адзначыла, што цяпер завершыла працу над грунтоўнымі кнігамі па гісторыі беларусаў у сьвеце і кнізе "Беларусы Нью-Ёрку".



Ганна Сурмач

Па выніках дакладаў і паведамленьняў адбылася дыскусыя, прамоўцы адказвалі на пытаньні. Сп-ня Валянціна Шаў-

чэнка выступіла з паведамленьнем пра гурт “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай і пра праект “Мова нанова” ў Таронта, пра свой шлях да беларушчыны і пра патрэбу кансалідацыі ўсіх беларускіх сілаў, незалежна ад палітычных адрозьненьняў.


Валянціна Шаўчэнка

Сп. Зьміцер Левіт выступіў з паведамленьнем пра неабходнасьць беларускай нацыянальнай гістарычнай канцэпцыі, без якой немажліва асэнсаваць месца беларусаў у сусьветнай гісторыі. “Надыйшоў час скінуць кайданы прарасейскай гісторыяграфіі і пабудаваць беларускую гістарычную канцэпцыю на эўрапейскім грунце, бо цяпер беларуская гісторыя падобная на Каляды без ялінкі – цацкі, або факты, ёсьць, а вешаць няма на што, яны не зьнітаваныя ў адзіны аб’ектыўны і гарманічны аповед”.

Затым адбыліся дэманстрацыя відэаслайдаў беларускіх краявідаў пад лірычныя беларускія мэлёдыі, якім спантанна і вельмі добра падпявала др. Галіна Тумiловіч. Пазьней пасьля паседжаньняў жадаючыя мелі магчымасьць прагуляцца па рацэ Атаве і насалодзіцца краявідамі канадыйскай сталіцы.

Вечарам у бары “Певень і Леў” у цэнтры Атавы прайшоў канцэрт паэта і барда сп. Віктара Шалкевіча, які выступіў са сваім традыцыйным рэпэртуарам, песьнямі, што прынесьлі



Віктар Шалкевіч

яму папулярнасьць, а таксама зь некаторымі новымі творамі. Выступ быў вельмі цёпла прыняты прысутнымі на канцэрце.

Наступны дзень, 4 верасьня, быў таксама багаты на падзеі й выступы і пачаўся трыма гімнамі, дабраслаўленьнем Уладыкі Сьвятаслава, архіяпіскапа Навагрудзкага і Паўночна-Амэрыканскага, Першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, а таксама прывітаньнем сп-ні Івонкі Сурвілла, Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Былі таксама заслуханыя прывітаньні ад старшыні БАЗА сп-ні Ганны Сурмач і старшыні ЗБК сп. Зьмітра Эльляшэвіча, а таксама прывітаньні ад шэрагу афіцыйных і грамадзкіх арганізацыяў Канады, у тым ліку ад канадыйскага ўраду, мэрыі Атавы, і прадстаўнікоў украінскай, польскай і латыскай грамады Канады. Сярод прывітаўшых былі Старшыня БНФ, старшыня Партыі КХП-БНФ сп. Зянон Пазьняк, старшыня Рады ЗБС “Бацькаўшчына” Ніна Шыдлоўская, сын Кастуся Акулы, вядомага дзеяча беларусаў Канады сп. Юрка Акула, які перадаў прывітаньне ад сп. Юркі Рапецкага і абвесьціў пра фундаваньне 10 тысяч даляраў на падтрымку Цэнтру Беларускіх Досьледаў у Канзасе.

Затым з дакладам “Трываласьць памяці й фармаваньне тоеснасьці: міграцыя і Бацькаўшчына ў беларускім досьведзе” выступіла прафэсарка Вартбурскага ўнівэрсытэту Аёвы, дырэктарка Цэнтру Беларускіх Досьледаў у Канзасе, др. Паўлінка Сурвілла. Яна прыцягнула выяву расплаўленых гадзіньнікаў на карцінах Сальвадора Далі для ілюстраваньня пытаньняў памяці й тоеснасьці як элемэнтаў перакананьня, як няспынна трансфармаваных, але заўсёды прысутных атрыбутаў нацыянальнага жыцьця. Беларускі досьвед на чужыне быў менавіта досьведам зьменаў, досьведам стасаваньня ведаў і памяці пра свой край і пра жыцьцё да ад’езду – стасаваным да новага жыцьця ў краінах, што прынялі беларусаў. Міграцыя – заўсёды працэс страты і знаходу, адкрыцьця і вынаходніцтва сябе. Посьпех іміграцыі звычайна вымяраецца ў гучнасьці голасу. Беларуская іміграцыя можа быць ня самая заможная і ўплывовая, але яна багатая на інтэлектуальны капітал. Зьдзіўляе ейная здольнасьць прадукаваць і публікаваць сваю інтэлектуальную прадукцыю. Будзем спадзявацца, што сацыяльны капітал дапоўніць гэты існуючы капітал інтэлектуальны. Беларусы можа ня маюць гучнага голасу, але ўсё ж маюць свой адметны голас.


Паўлінка Сурвілла

Др. Галіна Тумiловіч, кавалер Ордэну Акадэмічных Пальмаў Францыі, выкладчыца Карлтан унівэрсытэту (Атава), выступіла з дакладам “Беларусь: ад Вялікага Княства Літоўскага да сусьветнай глябалізацыі – якую спадчыну возьмем з сабою?” Яна спынілася на кароткім аналізе сучаснага стану і наступстваў глябалізацыі й пунктаў гледжаньня на іх. Сеціўныя мажлівасьці публікацыяў зрабілі дужа нізкім парог уваходу ў культурніцкую публічную сфэру, і поруч з сумленнымі аўтарамі хапае тых, што схільныя да інсінуацыяў. Безумоўна, ёсьць пазытыўны і негатыўны бакі ва ўсіх праявах глябалізацыі. Калі чалавек жыве ў грамадзтве спажываньня, кансумэрызм робіцца зьместам эпохі. Глябалізацыя не абыйшла і Беларусь, і таму мы мусім пільней зірнуць на ўнівэрсалізацыю, на якую скіраваная зьява глябалізацыі. Што супрацьставіць негатыўным праявам усіх гэтых плыняў сучаснасьці? Толькі ўзмацненьне ідэнтычнасьці. У нас няма іншага выбару. Беларусь і сьвет – гэта спалучаныя сасуды. Глябалізацыя ня мусіць зьмешвацца з патрабаваньнямі ідэнтычнасьці, але і ня можа не ўплываць на іх. Менавіта ідэнтычнасьць можа стаць ідэалёгіяй нашага часу. Праблема складаная, але разам з тым ідэнтычнасьць больш прысутная цяпер, чым 20-30 год таму. Сам факт 25-гадовай незалежнасьці ня можа не працаваць на падвышэньне сьведамасьці. Важны супольны досьвед жыцьця ў адной краіне, нават пад урадам Лукашэнкі. Мы былі ахвярамі, але мы былі ахвярамі разам, нас гэта аб’ядноўвае таксама. І таксама працуе на будаваньне сьведамасьці. Нават палітычны канфлікт паміж Украінай і Расеяй, палітычна беспрэцэдэнтны, мае пэўны пазытыўны ўплыў на сьведамасьць беларусаў. Яны


Галіна Тумiловіч

## “Галгатня пра ЗыШыА”

# Skvarka dream

Эўропа ніколі не была адным і тым жа, і ніхто не абяцаў, што Амэрыка будзе тым больш, маючы на ўвазе, што другая вырасла зь першай. Эўропа пачыналася з Грэцыі, пасьля пераехала ў Рым, пасьля ў Бізантыю. Цэнтар Эўропы ў свой час быў і ў Скандынавіі і ў Гішпаніі, што далёка шукаць, нават у Вялікім Княстве, у той час, як іншыя часткі той Эўропы, якую мы сёньня яшчэ па старой звычцы, працягваем называць Эўропай, на нейкі час або назаўсёды пераставалі ёю быць у культурніцкім і цывілізацыйным вымярэньні...

Хто можа сказаць, якая сёньняшняя амэрыканская мара, які ён сучасны амэрыканскі сон? Як іх акрэсьліць, калі трансфармуюцца і пераплаўляюцца калёны на якіх была заснаваная і пабудаваная гэтая школа мысьленьня – дэмакратыя, роўнасьць, свабода? Калі дэмакратыя гэта ўжо ня воля большасьці, а дыктат прывілеяванай, мэйнстрымнай меншасьці. Роўнасьць ня так, як павінна быць, то бок роўныя ўмовы – кожнаму ў залежнасьці ад здольнасьці і працавітасьці, а прымітыўнае ўсім пароўну. Ну а свабода, натуральна, па Оўрэлу – гэта рабства.




Не, амэрыканская мара, як ідэя, ня зьнікла і, пэўна, ня зьнікне. Толькі вось ня факт, што Амэрыка застанецца тым самым ідэальным месцам для яе ўвасабленьня. Можа, каб разбагацець, стварыць шчасьлівую сям’ю, пабудаваць дом сваіх мараў, рэалізаваць сябе ў прафэсійным і асабістым жыцьці ўжо ня трэба будзе плысьці за акіян? Можа месцам для ажыцьцяўленьня такой простай, здавалася б, мары стане беларускі хутар? Гэта ж і ёсьць сапраўдная мара нашых дзядоў і прадзедаў – гаспадарыць на сваёй зямлі. А прышчэпленую ідэю чаркі і скваркі, калі амэрыканцы канчаткова адмовяцца ад сваіх каранёў, узамен аддамо новай Амэрыцы. Deal?

**Віталь ВОРАНАЎ**

# 32-я Сустрэча беларусаў

па-за межамі гэтага канфлікту, маюць іншыя надзёньнейшыя праблемы і вымогі, і гэта ўзмацняе іхную сьведамасьць, іхную адмысловасьць, адасобленасьць. Бо з каго мы найперш вылучаем сябе, ад каго адасабляемся, каб стаць сабою? Перш за ўсё – ад суседа, каб зрабіцца адрозным. Нацыянальная ідэнтычнасьць ёсьць заўсёды культурным гібрыдам, запазычваючы з усіх мажлівых крыніцаў. Што трэба ведаць – каб ратавацца, неабходна зьвяртацца да мінулага. А тут таксама ня ўсё ў парадку. У нас дасюль няма еднасьці ў гістарычным наратыве, няма адной тэорыі. Разам з тым дамінуе, менавіта ў навуковым ужытку, вэрсія нацыянальная, не прарасейская, не заходнарусізм. Выбар быў – і выбар быў зроблены на карысьць беларусацэнтрычнай вэрсіі. Прамоўца дала яшчэ шмат цікавых ідэяў адносна сьведамасьці й ідэнтычнасьці, і сам даклад быў горача сустрэты прысутнымі.

Сп. Зянон Пазьняк узяў слова і выступіў у дапаўненьне да зьместоўнага дакладу др. Туміловіч. Ён адзначыў, што незалежнасьць ёсьць найвышэйшай каштоўнасьцю. Незалежнасьць ёсьць нават важней за набыцьцё ўлады. Ідэнтычнасьць фармуецца праз незалежнасьць – і цяпер гэта ўступае ў канфлікт з сучаснай тэндэнцыяй размыцьця сувэрэнітэту. Таму фактар культуры робіцца складнікам сувэрэнітэту. Агрэсія Расеі й анэмічная рэакцыя ЗША і Захаду паказваюць, што “Ялцінскі сьвет”, сьвет непарушнасьці межаў і Хэльсінскіх прынцыпаў ужо не існуе. А пачалося з Грузіі, з патаптаньня Будапэшцкіх дамоваў. Таму мова стала палітыкай, стала абаронаю. Менавіта мова абароніць ад акупацыі. А шлях да мовы спалучаны з узмацненьнем нацыянальнай сьведамасьці, гэта узаемна ўплываючыя зьявы. У дыскусіі прынялі ўдзел таксама іншыя прамоўцы, адбылася плённая і цікавая гутарка і абмен думкамі.

Затым удзельнікі Сустрэчы абмеркавалі й прынялі рэзалюцыю Сустрэчы, дзе падкрэсьлена, што культурнае і палітычнае адзінства нацыі азначае й прадугледжвае беларускую ідэнтычнасьць паўсюль, дзе жывуць беларусы, і дзе пералічаныя захады для гэтага, прапанаваныя для асяродкаў беларусаў у Паўночнай Амэрыцы.



Дуэт “Кантабіле”

Падчас перапынку ўдзельнікі Сустрэчы мелі мажлівасьць наведаць будынак канадыйскага парлямэнту, іншыя цікавосткі сталіцы Канады. Увечары адбыўся сьвяточны канцэрт і банкет. У канцэрце ўзялі ўдзел гурт “Яваровы людзі”, дуэт “Кантабіле”(Улада Шамецька і Міхась Рыкаў), Віктар Шалкевіч, Валянціна Шаўчэнка, Аляксандра Голад, Кірыл Туміловіч, Галіна Рэзайпур ды іншыя выканаўцы з Канады. На банкеце былі падрыхтаваныя, сярод іншых, і беларускія нацыянальныя стравы. Прысутныя падзякавалі Атаўскаму аддзелу ЗБК, д-ру Пётру Мурзёнку за выдатную падрыхтоўку і арганізацыю імпрэзы.

Назаўтра адбылася паэтычная імпрэза ў рамках Сустрэчы на сядзібе д-ра Пётры Мурзёнка.

**Віталь ЗАЙКА**

# Вечарына “Восень у Нью-Ёрку”

У суботу 17-га верасьня ў бары The Lantern у самым сэрцы Грынвіч-Віліджа з посьпехам прайшла чарговая беларуская вечарына праекту Dzed Baradzed “Восень у Нью-Ёрку”. Гэтым разам арганізатары выбралі новы фармат, амэрыканска-беларускі. Гучала музыка ў стылях электра-сьвінг, рок-н-рол, стэп-фанк, джайв. Натоўп быў шматнацыянальны, але беларусаў была пераважная большасьць. Імпрэзай зацікавіліся палякі, казахі, кыргызы, латышы, расейцы і ўкраінцы. Вечар быў напоўнены разнастайнымі забавамі.

Напачатку адбылося жывое арт-шоў мастачкі і дызайнэркі з Ellie Grin Art, яна намалявала карціну “Восень у Нью-Ёрку”, а таксама прэзэнтавала сваю калекцыю жаночых ўпрыгожваньняў.

Затым прайшоў парны танц-кляс ад харэографа Спэнсара Вейсбонда. Спэнсар паказваў базавыя рухі ў стылі сьвінг, які бярэ свой пачатак ў 20-30-х гадох XX-га стагодзьдзя. Таксама былі і настольныя гульні для стомленых ад танцаў і ахвотнікаў бліжэй пазнаёміцца з суразмоўцамі.

Маляваньне на твары ад прафэсійнага грымёра і стылісткі Элізабэт Б. Зідэнтопф надаў настрой весялосьці і бесклапотнасьці гасьцям вечарыны. Нават Францішку Вячорку на шчацэ намалявалі “Белыя крылы”, новую атрыбутыку нашай зборнай па футболу.

Таксама арганізатары правялі конкурс для амэрыканцаў на веды фактаў пра Беларусь, за што пераможца быў узнагароджаны кнігаю коміксаў “Heta Belarus, dzietka!”.

Таксама разыгрывалася лятарэя ад спонсараў, прызамі былі два квіткі на канцэрт гуртоў “Brutto і “Ляпіса”, што пройдзе ў Нью-Ёрку. За музыку і драйвовую атмасфэру адказвалі Dj miShaman і Dj Spinach.

Ну і немагчыма не ўзгадаць пра традыцыйны беларускі напой Крамбамбулю, які ўжо стаў разынкаю вечарынаў Dzed Baradzed. Як і мінулы раз госьці маглі пакаштаваць два віды: “пякучую” і “панскую”.

Госьці вечарыны разышліся толькі пад раніцу. Новая імпрэза плянуецца ў сьнежні. Акрамя гэтага хутка пачне працаваць беларускі кінаклюб, дзе жадаючыя змогуць сумесна праглядаць беларускія фільмаў незалежных рэжысэраў, абмяркоўваць іх, камунікавацца. За навінамі сачыце на Фэйсбуку ў суполцы “Беларусы ЗША. Разам лягчэй”.

***Ганна ШАРКО***

***Здымкі Аляксандар МІКУЛА***




# Акцыя пратэсту супраць фальсыфікацыі выбараў

Каля Кансуляту Рэспублікі Беларусь на 3-й авэню ў Нью-Ёрку 13-га верасьня адбылася акцыя пратэсту супраць рэжыму Лукашэнкі, які не дазваляе правесьці справядлівыя і празрыстыя выбары ў Беларусі.

Акцыя была зладжаная Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем з удзелам старшыні КХП-БНФ сп. Зянона Пазьняка і прадстаўнікоў Згуртаваньня “Пагоня”. Удзел бралі каля 20 чалавек. Перад прысутнымі на акцыі выступілі сп. Зянон Пазьняк, сп-ня Тацьцяна Красоўская і сп. Віталь Зайка. Вельмі ўдала акцыю вяла сп-чня Сьвятлана Казачок.

Луналі беларускія сьцягі, прысутныя выгукалі лёзунгі “Жыве Беларусь”, “Далоў фальшаваньне выбараў”, “Ярмошыну – на нары”, “Далоў Лукашэнку”.

Удзельнікі затым прайшліся, выгукваючы лёгунгі, уздоўж блёку, дзе месьціцца Кансулят РБ.

***Віталь ЗАЙКА***



## Роўнасьць ці справядлівасьць

***заканчэньне з бачыны 1***

туючы роўнасьць “стартавых” умоваў, пасьля нідзе ня згадваюць роўнасьць як неабходны чыньнік для разьвіцьця чалавека й грамадзтва, але згадваюць адныя і тыя, роўныя для ўсіх правы – на жыцьцё, свабоду і пабудову свайго ўласнага шчасьця і дабрабыту. Роўнасьць на старце не азначае роўнасьці вынікаў або роўнасьці чалавечага стану. Наадварот, існуючая няроўнасьць, а менавіта няроўнасьць матэрыяльная, у выглядзе абароны правоў маёмасьці, замацоўваецца Кастытуцыяй Злучаных Штатаў як умова для стабільнасьці нацыі, яе разьвіцьця й квітненьня.

У рэторыцы цяперашніх псэўдалібэральных дзеячоў, у палітыцы адміністрацыі Абамы й у дэкларацыях прэтэндэнтаў на прэзыдэнцтва ад Дэмакратычнай партыі гэтыя рэчы праклямуюцца ў дыямэтральна адрозным кірунку. Пра тое ж было чуваць ад анархічных удзельнікаў руху “Акупуй Ўол-Стрыт” (АЎС), пра тое ж сакочуць на лекцыях марксыстоўскія прафэсары ўнівэрсытэтаў. Цэлыя фундацыі, як магутная, варочаючая мільярдамі Форд-фундацыя, абвяшчаюць сябе прыхільнікамі асягненьня тых рэчаў. З гэтага лягеру мы ўвесь час можам чуць заклікі да “роўнасьці прыбыткаў” і “сацыяльнай справядлівасьці”, а таксма аднолькавасьці, якая пераходзіць у абсурд – як, скажам, вымога аднолькавасьці патрабаваньняў для мужчынаў і жанчынаў пры найме на працу ці службу ў пажарнікі, баявыя адзінкі арміі й флёту. Цікава, што ў мэтах дасягненьня “сацыяльнай справядлівасьці” левакі-лібэралы клянуць капіталізм, усляўляюць камунізм кубінскага тыпу і, наагул, пускаюцца ў рэтарычныя практыкаваньні, што далі б фору любым камуністычным бонзам. Між тым канкрэтныя высілкі па дасягненьні так званай “сацыяльнай справядлівасьці” даюць супрацьлеглыя вынікі. У штатах, дзе былі прынятыя абавязкавыя высокія ўзроўні мінімальнай заработнай платы, дайшло да масавых звальненьняў працаўнікоў, увядзеньня вышэйшага ўзроўню мэханізацыі і перапрафіляваньня працы кампаніяў, каб зьменшыць колькасьць працоўных месцаў і тым самым пакрыць выдаткі на падвышэньне заробкаў да ўзроўню новых абавязкавых мінімальных аплатаў. Гэта нагадвае той адваротны вынік, што прынесла рэалізацыя яшчэ аднаго нядаўняга праекту, скіраванага на роўнасьць і справядлівасьць – Абамакэйр, закон пра даступнае мэдыцынскае абслугоўваньне, што ў выніку зрабілася для мільёнаў людзей менш даступным. Так прыгожыя мары і пражэкты робяцца крыніцаю дыскамфорту, а часам бедаў і сапраўдных пакутаў для простых людзей, якім быццам бы хацелі дапамагчы левакі-лібэралы ды іхныя аднадумцы з Дэмакратычнай партыі й прэзыдэнцкай каманды Абамы.




Насамрэч, ці ня ёсьць тая няроўнасьць менавіта пазытыўным, рухаючым чыньнікам, калі амбітныя і працавітыя людзі пускаюцца ў жыцьцёвы шлях дасягаць вышыняў, раўнуючыся на тых, хто асягнуў болей і падняўся вышэй. Ужываючы тэрміны фізычныя, можна сказаць, што няроўнасьць пазначае градыент, які паказвае на кірунак разьвіцьця, на шлях прыкладаньня сілаў, амбіцыяў, талентаў і здольнасьцяў. Роўнасьць магчымасьцяў і роўнасьць перад законам ніколі не стануць тоесныя роўнасьці вынікаў дзейнасьці або роўнасьці абставінаў чалавечага існаваньня, роўнасьці памкненьняў і талентаў. Слава і гонар Амэрыкі заснаваныя менавіта на тым, што роўнасьць магчымасьцяў і роўнасьць перад законам сталі падвалінамі амэрыканскага ладу жыцьця і далі штуршок нечуванага датуль прагрэсу ў разьвіцьці эканомікі, падвышэньні ўзроўню жыцьця і дасканаленьні дэмакратычных прынцыпаў. Роўнасьць не азначае справядлівасьці, і роўнасьць абсалютовая – хібны і недасягальны фантом, на шляху да якога без патрэбы былі страчаныя мільёны чалавечых жыцьцяў. Імкненьне да гэтага фантому цяпер, напярэдадні 100-годзьдзя бальшавіцкага перакулу ў Расеі, што выклікаў страшныя дэфармацыі грамадзкага і чалавечага жыцьця, якія Расея дасюль ня ў стане пераадолець, мусяць быць навукаю ўсім тым, хто ганіць Амэрыку і атаясамлівае роўнасьць са справядлівасьцю. Уся гісторыя Амэрыкі ёсьць прыкладам, які абвяргае лявацкія псэўдалібэральныя канструкцыі.

***Віталь ЗАЙКА***

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **15-га кастрычніка 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*На сходзе плянуецца правесьці прэзэнтацыю новага выпуску літаратурнага альманаху **“БЕЛАРУС”** за 2016 год. Прысутныя будуць мець магчымасьць сустрэцца з рэдактарам і аўтарамі штогадовіка, набыць 10-ы нумар выданьня.*

*Напрыканцы заплянавана невялікае прыняцьцё з пачастункамі.*

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе. Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт **pahonia.com***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя артыкулы, водгукі й лісты.*

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*